# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”

Viestki j Paviedamleńni

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 6 (628)
Чэрвень 2018 г.


## Запрашаем на Купальле

**Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне “Пагоня” сардэчна запрашае ўсіх зацікаўленых адзначыць разам старадаўнюю рамантычную традыцыю Купальля ў парку *Ward Pund Ridge* у штаце Нью-Ёрк на выходныя 23-24 чэрвеня. Вас чакае цікавая і актыўная праграма, разьлічаная на два дні.**

Праграма ўключае спартыўны адпачынак, йогу, сьпевы, карагоды, скокі праз вогнішча і купаньне (бярыце з сабою купальнікі і ручнікі).

Кошт імпрэзы **$30** дарослым, **$15** дзецям (дзецям да 10 год - бясплатна), пасля 5-й вечара **$40** дарослым і **$15** дзецям – аплата на месцы наяўнымі грашыма. Ежу і намёты прывозьце свае. Калі Вы на аўта - плата за ўезд у парк да 5-й гадзіны вечара **$8** з кожнага аўта, незалежна ад колькасьці пасажыраў, і бясплатна пасьля 5-й вечара.

Абавязковая анлайн рэгістрацыя ***http://bit.ly/KUPALLE_2018*** або дасылайце СМС на нумар тэлефона ***(732) 604-1171*** (пазначце вашае імя і прозьвішча, час заезду і колькасьць людзей, што будзе ў вашым намёце).

**Арганізатарам важна ведаць колькасьць людзей, каб усіх разьмясьціць і зрабіць Ваш адпачынак найбольш прыемным**.

**Дзе: парк *Ward Pund Ridge у штаце Нью-Ёрк*.**

**Даезд аўтам: *Route 35 and 121 South, Cross River*,**

**Даезд цягніком:** ад станцыі ***Grand Central*** (NYC) да прапынку ***Katonah*** (прыкладна гадзіна часу), далей 10 хвілін язды на аўта ад станцыі, можна ўзяць таксоўку да ***Ward Pund Ridge*** але варта дамовіцца, каб вас падвезьлі.

Мапа парку ***http://bit.ly/Map_park*** Шукайце паляну з хаткамі-навесамі **№ 1, 2, 3 і 4.**



# Травеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 12 траўня, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў чарговы, травеньскі, сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка распавёў пра маючыя адбыцца імпрэзы, заклікаў сачыць за аб’явамі на староньцы “Пагоні” ў Фэйсбуку.

З прэзэнтацыяй пра іміграцыйнае заканадаўства Злучаных Штатаў выступіў адвакат сп. Гарт Хол. Ён коратка распавёў пра сябе і пра тое, як вывучыў расейскую мову. У 1980-я гады прыехаў вывучаць расейскую мову, трапіў у Бурацкі цэнтар альтэрнатыўнай мэдыцыны. Там знайшоў сабе і жонку. У 1992 годзе вярнуліся ў ЗША і тады пачаў дапамагаць людзям з пытаньнямі, зьвязанымі з іміграцыяй. Скончыў юрыдычную школу і з 2003 году практыкуе права ў штаце Мэрылэнд і Дыстрыкце Калюмбія, а як іміграцыйнае права тычыцца фэдэральных законаў, дык яго можна практыкаваць у кожным штаце, без патрэбы адмысловай ліцэнзіі. У справах іміграцыі для беларусаў дапамагае адмысловы памочнік Міхаіл, які сам зь Менску і арыентуецца ў беларускай спэцыфіцы.

Сп. Г. Хол спыніўся таксама на пытаньнях працоўных візаў і юрыдычнай дапамогі праз паралігалаў. Ён адзначыў, што на сайце NYCourts.gov ёсьць інфармацыя пра адвакатаў – дадзеныя, спэцыялізацыя, ці прымаліся супраць яго (яе) дысцыплінарныя меры, і падобнае. Сп. Хол спыніўся на стадыях атрыманьня палітычнага прытулку (азылю) у ЗША, і падкрэсьліў, што асноўная і галоўная рэч, якую мусіць даказаць аплікант – што яму пагражаюць ганеньні й перасьлед (persecution) у краіне, адкуль ён паходзіць. Заява на азыль павінна ад пачатку адпавядаць патрабаваньням і крытэрам, што вызначаюць дапушчальнасьць стасаваньня меры палітпрытулку. Сп. Г. Хол на пытаньні адказаў, што кожны выпадак мусіць мець максымальна вызначаны кантэкст, і таму на канкрэтныя пытаньні ён можа дэталёва адказваць толькі ў межах юрыдычнага кансультаваньня.

Затым перад прысутнымі выступіў фотамастак сп. Джон Кунстэдар. Ён распавёў пра сябе і пра сваё захапленьне Беларусьсю, яе людзямі, традыцыямі, прыродай. Прамаўляў выдатнай беларускай мовай. Ягонае зацікаўленьне пачалося з час тых часоў, калі напачатку 2000-х прыехаў у Беларусь у якасьці супрацоўніка амбасады ЗША ў Менску. Ён працаваў другім сакратаром амбасады, і намесьнікам кіраўніка місіі ў Менску, калі адносіны ў 2006 годзе зусім папсаваліся. “Як толькі



прыехаў у Беларусь – шмат езьдзіў, вандраваў па правінцыі, калі можна так сказаць, бо часьцяком адчуваю, што правінцыя і ёсьць мэтраполія, там дзе жыве і дыхае сапраўдная Беларусь”. У першыя паўтары гады знаёміўся з краінаю, наезьдзіў 35 тыс. км. Паўсюль здымаў. У жніўні 2008 году ў Паставах прайшла фотавыстава ў мясцовым Доме культуры, але ня ўсе здымкі трапілі на яе, бо загадчыцы Дому культуры на спадабаліся некаторыя, на якіх “людзі выглядалі беднымі, дамы – недагледжанымі”. Разам з тым выстава адбылася, яе пабачылі людзі, і гэта ўжо быў посьпех.

Сп. Кунстэдар сказаў, што шмат чытаў пра Беларусь, і натхняўся творчасьцю такіх фотамастакоў і этнографаў як Ісак Сэрбаў, Зыгмунт Юркоўскі, Вацлаў Ластоўскі, Соф’я Хамянтоўская, Ян Булгак, Аляксандар Сержпутоўскі. Шмат дапамагаў вядомы сучасны фотамастак Дзяніс Раманюк, з якім езьдзілі на Гомельшчыну, у Чачэрскі й Веткаўскі раёны.

Далей сп. Джон Кунстэдар паказаў праз праектар свае фатаздымкі, камэнтуючы іх. “Адна жанчына неяк на імпрэзе стаяла – глядзела на мяне, а тады падыйшла дый кажа: “О, дык вы шукаеце беларускую экзотыку!” На што адказаў ёй, што для мяне беларуская вёска – гэта як быць дома, гэта сваё, не экзотыка. А вось гарады – гэта экзотыка, гэта тое, дзе я не чуюся сваім. Архітэктурную спадчыну Менску не разумею, і яна ёсьць для мяне экзотыкай, хоць і не здымаю яе”.

Прамоўца адзначыў, што ён некалі пачынаў вучыць баўгарскую мову, і таму вывучэньне беларускай, як другой славянская мовы, мела ўжо пэўны падмурак. “Наагул, розьніца паміж сьвятлом і гукам – толькі ў даўжыні хвалі, таму лічу што выявы, якія здымаю, агранічна зьвязаныя з моваю гэтых людзей, моваю беларускай вёскі. Характар, гук мовы робяць свой уплыў. Як і характар глебы, і смак суніцаў”. Здымае ён 75мм аб’ектывам, лічыць што гэта вельмі блізка да людзей, і разам з тым паважае годнасьць кожнага. Пераважна на чорна-белую стужку, але часам і на каляровую; лічбавых камэраў не прызнае. Яму імпануе манэра беларускага фотакарэспандэнта Сяргея Гудзіліна, але той мае іншы, больш рэпартэрскі, падыход. “Мой падыход – адлюстраваць прыгажосьць і годнасьць жыцьця маіх суб’ектаў, іхныя штодзённыя клопаты з аднаго боку, а таксама іхную далучанасьць да вечнага – з другога”.

Бываў шмат у якіх вёсках і мястэчках Беларусі, і мала засталося месяцінаў, дзе б не пабываў яшчэ. Здымаў на фэсьце ў Будславе, на Купальлі пад Менскам, на пілігрымцы ў Росіцы. Здымаў дзяцей і старых, і пасадку бульбы, і набажэнствы ў цэрквах і касьцёлах, і паховіны, і народныя абрады, рамёствы. “Вось плот – нахіліўся й паваліўся, жэрдкі як нотны стан, гэты плот – як скрыпічны ключ у музыцы. Калі сябры рабілі маю выставу ў Браславе, трэба было запытацца дазволу галоўнага ідэоляга раёну, яна прагледзела фатаздымкі і адкладае фота з плотам: “У нашым раёне ўсе платы ў парадку!” Праўда, удалося яе ўгаварыць, што гэта ў іншым раёне, і здымак-ткі патрапіў на выставу”. А яшчэ пра лаву: “Вось лава у вёсцы на вуліцы. Гэта ня проста лава, гэта вясковая агора, форум,назіральны пункт. Бабулі вясковыя ўсё ведаюць, маюць рэнтген-вочы, бачаць, ці чалавек гэты добры, ці дрэнны”. Сьвятары ў вёсцы Рубель. Ліштвы ў вёсцы Тонеж, ліштвы наагул вельмі важная частка спадчыны. Вось Радаўніца ў Аздамічах. “Культура, якая годна справіцца са

***заканчэньне на бачыне 3***

Беларусь – Амэрыка: лёсы землякоў

# Янка Станкевіч (1891 - 1976), мовазнаўца і грамадзкі дзеяч

Сёлета спаўняецца 127 год ад народзінаў аднаго з выбітных дзеячоў беларускай грамады ў Амэрыцы Янкі Станкевіча (1891-1976), выдатнага грамадзкага дзеяча, мовазнаўцы, перакладчыка Бібліі на беларускую мову. Менавіта з дапамогаю Янкі Станкевіча ў 1949-м годзе ў памешканьні на 100-й вуліцы ў гішпанскім Гарлеме ў Нью-Ёрку было заснаванае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, некалі найбольш дзейная беларуская нацыянальная арганізацыя ў Амэрыцы, а хіба й ва ўсім сьвеце.



Янка Станкевіч паходзіў зь вёскі Арлянята на Ашмяншчыне, што дала шмат беларускіх дзеячоў з такім жа прозьвішчам. Перад 1-ю Сусьветнаю вайною Станкевіч далучыўся да рэдакцыі "Нашай Нівы". Ён пачаў сваю грамадзкую і нацыянальную дзейнасьць у 16 гадоў, распаўсюджваючы на Віленшчыне газэту "Наша Ніва". З пачаткам вайны быў мабілізаваны ў расейскае войска. Адзін час, будучы ў Казані, Я. Станкевіч выкладаў беларускую гісторыю і культуру беларускім уцекачам з прыфрантовай зоны, якіх расейскія казакі выганялі сілком, часта ўжываючы рабункі й гвалты. Станкевіч ваяваў на Румынскім фронце, трапіў у аўстрыйскі палон. Адным з найважнейшых фактаў у дзейнасьці Я. Станкевіча быў удзел у прыняцьці Акту 25-га Сакавіка 1918 г. У 1920 годзе Станкевіч вяртаецца на Віленшчыну, што апынулася пад Польшчаю, наладжвае беларускую нацыянальную працу, школьніцтва, супрацоўнічае з летувіскімі дзеячамі, адстойваючы правы беларусаў у польскай квазідзяржаве "Сярэдняй Літве".

Завяршыўшы сярэднюю асьвету ўжо ў сталым узросьце ў Віленскай беларускай гімназіі, Станкевіч выехаў на вучобу ў Карлаў унівэрсытэт у Прагу. Напачатку 1920-х гадоў, для жыхароў Заходняй Беларусі была магчымасьць атрымліваць адукацыю, карыстаючы з стыпэндыяў, выданых па прапанове прэзыдэнта Чэхаславаччыны Тамаша Масарыка. Тады ў Празе знаходзіўся ўрад БНР, вучыліся І. Дварчанін, У. Жылка, А. Орса, Я. Геніюш ды шмат іншых беларусаў. Атрымаўшы ступень доктара філялёгіі за працу аб гісторыі беларускай мовы на падставе мовы Аль-Кітабаў, пісаных арабскімі літарамі па-беларуску ("арабіца"), Станкевіч вяртаецца ў Беларусь, пачынае выкладчыцкую дзейнасьць. У 1928-м гадзе ён быў абраны паслом ад лідзкай акругі ў польскі сойм. Пасьля разгону Сойму зноў узяўся за выкладаньне.

Калі пачалася 2-я Сусьветная вайна, Станкевіч быў арыштаваны польскімі ўладамі як ненадзейны элемэнт, потым трапіў у Вільню, занятую летувісамі, а як прыйшлі Саветы, уцёк у Варшаву. З 1941-га году зноў у Беларусі, займаўся школьніцтвам і выдавецкай дзейнасьцю. Падчас нямецкай акупацыі Я. Станкевіч падтрымоўваў дзейнасьць Беларускай Незалежніцкай Партыі, якую ўзначаліў Вацлаў Іваноўскі.

У 1944-м годзе Станкевіч зь сям'ёй падаўся на Захад, жыў у ДП-лягерох, а ў 1949-м годзе прыехаў у Нью-Ёрк. Тут займаўся грамадзкай працай, выдавецкай дзейнасьцю, пераклаў па-беларуску Біблію. Перш выйшаў Новы Запавет, а тады ўся Біблія ("Сьвятая Бібля"), што была цалкам надрукаваная ў 1973 годзе. Я. Станкевіч быў працяглы час віцэ-старшынём БАЗА, супрацоўнічаў у розных праектах Беларускага навуковага таварыства імя Ф. Скарыны, выдаваў часапіс "Веда".

Адзін зь дзеячаў беларускай грамады ў ЗША сп. А. Шукелойць згадваў, што Я. Станкевіч падрыхтаваў для нейкага амэрыканскага інстытуту граматыку беларускай мовы, якую варта адшукаць. Сваю маёмасьць Я. Станкевіч пакінуў адмысловай фундацыі, якая мела пасьмяротна выдаць ягоныя творы.

Без параўнаньня ёсьць высілак Янкі Станкевіча па ўвядзеньні ў зварот гістарычнага слова-звароту "спадар", якое было ім адшуканае ў старажытных рукапісах.

**Віталь ЗАЙКА**

---

*заканчэньне з бачыны 2*

сьмерцю – гэта сапраўдная культура. Бо што ёсьць культура, з лаціны – гэта перагной, урадлівы слой глебы. Бяз гною няма хлеба і бульбы – і гэтак бяз мовы, традыцыяў няма культуры".

Вось Зьвеставаньне ў вёсцы Дварэц, "дзіўна, чаму не карыстаюцца сымболем Зьвеставаньня на 25 Сакавіка, на Дзень Волі, яны супадаюць па календары – бо Зьвеставаньне гэта Добрая Вестка, і надзвычай добра пасуе абвешчаньню Незалежнасьці". Вось людзі працуюць на зямлі. Яны ведаюць, што рабіць, без падказак зь сельсавету або з адміністрацыі прэзыдэнта. Так было сотні гадоў, і так ёсьць. І значыць, нацыя існуе, насуперак усім перашкодам і скептыцызму. Вось сьвята Пятра і Паўла ў Іўі – працавітыя рукі на сваім месцы. "Вось стары трымае дзяўчынку, якая цалуе паску ў царкве – гэта момант перадачы традыцыі, перадачы веры і культуры, гэта цудоўны момант, што трапіў у кадр".

На пытаньне якой мовай ён пераважна карыстаўся, адказаў, што як размаўляў па-беларуску, дык заўсёды бачыў падзяку ў вачох людзей. Наагул можна сказаць, што людзі, іхны характар яму ўжо знаёмыя. "Я рос на Чыкагшчыне, і там бачыў шмат людзей з вашага рэгіёну, і што нагадваюць вашых. Спакойныя, працавітыя людзі, якія ведаюць, чаго ім трэба ад жыцьця. Можна сказаць, што Чыкага – самы вялікі горад ВКЛ у Амэрыцы. Там ёсьць і палякі, і летувісы, і, канешне, ёсьць беларусы. Па досьведзе, розьніца паміж беларусамі і расейцамі – як дзень і ноч. Таксама вялікая розьніца паміж палякам і беларусам. Мне падабаецца ваш код росту і чысьціня традыцыі, якая ёсьць адмысловая і адначасна глыбока эўрапэйская".

Сп. Кунстэдар адзначыў, што ў часы сваёй дыпляматычнай працы ён сутыкаўся са стаўленьнем амэрыканскіх афіцыйных асабаў да нацыяў на ўсход ад Одэру, як да "недаразьвітых і недастаткова цывілізаваных". Але палітыка – гэта тое, што часам ляжыць на супрацьлеглым баку ад культуры. "А мне, я лічу, гэта Божы дар – вяртацца ў Беларусь і здымаць. Я ўдзячны беларускім сябрам, што адчынілі мне дзьверы вашай краіны і вашай культуры".

Фатаздымкі сп. Дж. Кунстэдара можна паглядзець у сеціве на сайце Radzimaphoto.com і таксама Flickr-John Kunstadter. Сп. Джон Кунстэдар адказаў на пытаньні прысутных, а пасьля ўсе мелі нагоду працягнуць гутаркі пры сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Канец сьвету

Няма больш навязьлівага народу чым англасаксы. Па ўсім сьвеце пракацілася хваля інфармацыі пра шлюб нейкага там рудога прынца. Калі ўвага з боку ангельскай, ці брытанскай, публікі яшчэ больш-менш зразумелая, то адкуль бяруцца тыя ўбогія неангельцы, якія захоплена назіраюць за жыцьцём брытанскай каралеўскай сям’і? Чым іншым, калі не праявай пачварнай глябальнай поп-культуры зьяўляецца такое зацікаўленьне і ўвага да таго, што адбываецца за тысячу кілямэтраў ад нас, ад нашага сьвету?



А можа ўсе гэтыя захопленыя назіральнікі зьяўляюцца прыхільнікамі манархічнай дзяржаўнасьці, або выдатна ведаюць прадстаўнікоў каралеўскіх-княскіх сем’яў у сваёй краіне? Магчыма, яны чакаюць вяртаньня на трон нашчадкаў сваёй каралеўскай сям’і? Наўрад ці. Хутчэй за ўсё гэта пустое назіраньне вачыма малпы, з націскам на пустату – у што былі апранутыя, на чым ехалі, што елі, колькі каштавала... Каралеўская сям’я Вялікабрытаніі ў практычным пляне ня мае ніякай улады, адзіная яе функцыя – забаўляльна-статусная, і гэтая функцыя, як бачна, вельмі ўдала, выкарыстоўваецца брытанцамі ў якасьці навязваньня сваёй карціны сьвету. Так жа як нядаўна навязьліва выкарыстоўваўся вясёлкавы сьцяг на амбасадзе Злучанага Каралеўства ў Менску.

Брытанцы – гэта нацыя навязьлівых сымбаляў, якія, дарэчы, у свой час былі ўдала адкінутыя амэрыканцамі, прынамсі фармальна, бо пэўныя мэханізмы фунцыянаваньня амэрыканскага грамадзтва ўсё ж засталіся ім у спадчыну ад брытанцаў. Хіба што амэрыканцы не такія навязьлівыя, а калі навязваюць, то робяць гэта трохі па іншаму, неяк інтэлігентней, з дапамогаю кіно, рэклямы і палітычных мэханізмаў, звычайна спосабам пераінтэрпрэтацыі сэнсаў.

Пры сутыкненьні з такой навязьлівасьцю вельмі складана выстаяць, нават калі праўда на тваім баку. Уласныя ўстановы культуры, дзяржаўныя інстытуты могуць мець абсалютную рацыю ў адстойваньні сваіх пазыцый, але свая інтэлектуальная бамжатня ўжо на ўвесь голас гарлапаніць – паглядзіце, як жывуць яны, і як жывём мы, а тады ўжо гаварыце! Маўляў – не вучы жыць, дай лепш на піва! Як пераможцы могуць жыць лепш за пераможаных! І гэтак далей. Бараніць праўду з пазыцыі бяднейшага вельмі складана. Сьляпыя ня бачаць што матэрыяльная ўбогасьць – гэта вынік іхняй духоўнай непаўнавартасьці, і што ў чужой карціне сьвету пэрыфэрыя назаўсёды мае застацца пэрыфэрыяй...

***Віталь ВОРАНАЎ***

### Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

**П. Богдан** .................60
**Д. Гурыновіч** .............60
**Г. Радзіон** ................60
**А. Хмарун** ................60
**М. Шаўчэнка** .............60

**Усім шчыры дзякуй!**

*Паважаныя **К. Буяр, І. Кудзінаў, А. Мілашэўскі, А. Цыбулька, А. Якубенка, А. Яфімава,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

***Шаноўныя сябры!** Калі ласка, своечасова абнаўляйце падпіску на “Весткі й Паведамленьні”. (**Інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча**).*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**
адбудзецца ў суботу **9-га чэрвеня 2018 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.
Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы сайт **pahonia.com***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

**П. Богдан** .................30
**Д. Гурыновіч** .............30
**Г. Радзіон** ................30
**А. Хмарун** ................30
**М. Шаўчэнка** .............30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Рэдакцыя бясплатна надрукуе прыватныя абвесткі і будзе ўдзячная за дасланыя для друку артыкулы, водгукі й лісты.*

*Электронны варыянт бюлетэня можна знайсьці ў інтэрнэце на сайце **e-krama.com***